# МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

## ЖЫЛЛЁ

Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

Сельскія пасяленні Беларусі мелі неаднолькавыя памеры. У цэнтральных і паўднёвых раёнах Беларусі яны былі значна большымі, чым на поўначы. А. І. Лакатко вылучае тры вялікіх рэгіёна: Палескі рэгіён з перабольшваннем буйных многадворных селішчаў з лікам двароў звыш трохсот; Сярэднебеларускі рэгіён з лікам двароў ад ста да трохсот; Паазер'е, для якога характэрны маладворныя пасяленні.



Сялянская хата ў вёсцы Тырвовічы Пінскага павета. Канец XIX ст.

Прамежкавае становішча паміж сельскімі і гарадскімі паселішчамі займалі мястэчкі, якія існавалі да канца 30-х гадоў. Па ўказу Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 27 верасня 1938 г. «Аб класіфікацыі населеных пунктаў Беларускай ССР» большасць мястэчак было ператворана ў гарады і пасёлкі гарадскога тыпу (101 мястэчка), астатнія атрымалі статус сельскага пасялення. Звычайна ў цэнтры мястэчка размяшчалася невялічкая кірмашовая плошча, тут жа былі царква, касцёл ці сінагога, школа.

У савецкі час у жыцці сялян адбыліся істотныя змены. Нацыяналізацыя зямлі, новае землеўпарадкаванне, якое выклікала сямейныя раздзелы гаспадарак, стымулявалі жыллёвае будаўніцтва. Да таго ж, сказвалася вольнае карыстанне лесам у час грамадзянскай вайны і ільготы, якія мелі беднякі пры размеркаванні лесу. Аднак у самой архітэктуры жыллёвага будаўніцтва ў 20—30-ыя гады вялікіх змен не назіралася. Як і раней, панавала зрубнае жыллё. На пабудову звычайна выкарыстоўвалі характэрныя для сярэдняй паласы хваёвыя пароды дрэў, найперш сасну, радзей елку. У Сакольскім павеце з сасны выраблялі ніжнюю палову жылога будынка, з яліны — верхнюю. На Гомельшчыне ў сувязі з недахопам каштоўных будаўнічых матэрыялаў рабілі жыллё з асіны, радзей з вольхі. Усё залежыла ад маёмаснага становішча сялян. Больш заможныя імкнуліся ніжнія вянкі зруба рабіць з дуба. Вельмі часта жыллё будавалі з сасны, а гаспадарчыя будынкі з елкі ці асіны. Хата бедняка часам майстравалася з розных парод дрэва — хваі, елкі, асіны. Заможныя ўзводзілі жыллё пераважна з сасны, амаль выключна пяцісценкамі ці на дзве хаты праз сенцы. Паводле даных Дзяржаўнага страхавання за 1923 г., з агульнага ліку сельскіх будынкаў (617.882) 83,8% складалі чатырохсценныя хаты, 5,6% пяцісценкі і 13,3% хаты з двух палавін. Даследаванне сельскага жылля, якое было праведзена ў 1926 годзе (запоўнена і апрацавана 1.052 анкеты, што складае 0,2% усіх сялянскіх хат), паказала: у параўнанні з 1923 г. панізілася доля чатырохсценак — да 71%, значна вырасла ўдзельная вага пяцісценак — да 24%.

Звычайна будавалі хату сам гаспадар, дапамагалі яму сваякі і суседзі. Аднак былі і адметныя спецыялісты-цесляры, якіх запрашалі на ўзвядзенне жылля. Па традыцыі ў першым усходнім вугле першага вянка высякалі ямку, куды клалі манету. Калі хаты вянок, ці так званыя падрубы ўложаны, адбываліся ў зрубе закладзіны, а як засяляліся ў хату, то рабілі ўходзіны (улазіны).

Беларускае вясковае жыллё ў абсалютнай большасці будавалася з круглых ачышчаных ад кары бярвенняў. Спрадвечна сустракаліся зрубы з брусау (на поўдні Брэстчыны — Пінскі, Іванаўскі, Сталінскі раёны — бытавалі найчасцей). Шырока выкарыстоўваўся характэрны для ўсходніх славян спосаб замацавання вянкоў хаты ў «просты кут», ці яшчэ яго называлі «расейскі вугал». Але ўжо намецілася тэндэнцыя на пашырэнне «чыстага» (нямецкага) вугла, які ў 20—30-х гадах бытаваў толькі ў заходніх раёнах і ў гарадской мясцовасці. Для ўцяплення хата імшылася (між вянкамі клаўся мох або кастрыца), пазы бярвенняў замазваліся глінай. У 1926 г. дамоў з абтынкаванымі глінай сценамі было ўсяго каля 3%, якія адзін-два разы ў год бяліліся вапнай. На поўдні, бліжэй да Украіны, многія хаты тынкавалі і бялілі. Так, у вёсцы Радзілавічы Тураўскага раёна такіх дамоў было амаль палова (42%).

З 20—30-х гадоў XX ст. пачынаецца больш шырокае выкарыстанне абмазкі сцен глінай на захадзе, паўднёвым усходзе і ў цэнтральных раёнах Беларусі. Беларуская сялянская хата ў гэты час мела нізкія сцены, звычайна зруб складаўся з 10—12 вянкоў, амаль у кожнай другой хаце вышыня сцен не перабольшвала 3-х аршын. Як і раней, на большай тэрыторыі Беларусі ў якасці фундамента выкарыстоўваліся



Хата былога панскага батрака ў Ваўкавыскім раёне.

хваёвыя або дубовыя калоды (слупкі, «цыльпухі», «шкандары», «штандары»), якія ўкапваліся ў зямлю. На іх клаўся ніжні вянок сцен. Паміж штандарамі пад сцены рабіўся драўляны закід, які іншы раз пераплятаўся лазой. Знадворку да яго, уключаючы і ніжні вянок сцяны, насыпалася прыаба, у мэтах уцяплення ў зімні час. Такі фундамент быў у 60% даследаваных хат (1926 г.). У рэдкіх выпадках зруб ставіўся проста на зямлю, прычым першы вянок яго абавязкова рабілі

(Працяг на 6-й стар.)

СОЦИССЛЕДОВАНИЕ

# Что мы думаем о нашей жизни?

(Окончание. Начало в № 7)

Но подавляющее большинство (55 %) занимает умеренную позицию и придерживается мнения, что систему управления надо демократизировать, но новые структуры создавать не надо. Среди неотложных мер указываются: резкое повышение оплаты труда (63 % опрошенных), предоставление полной самостоятельности научным организациям (36), переход на конкурсную систему отбора тематики (33), введение контрактной системы организации научного труда (32 %). Наименее значимыми из возможных реформ респонденты считали повышение роли отделений наук (10 %), выведение конструкторских организаций из системы АН (9 %) и преобразование большой части научных подразделений в коммерческие структуры (7 %).

Таким образом, реформационные настроения в Академии наук Беларуси в мае 1992 г. характеризовались умеренностью. Самым желательным изменением в организации научной деятельности считалось повышение оплаты труда и предоставление полной самостоятельности научным организациям. Малозначимыми для научного сообщества выглядели именно те проблемы, о которых много говорят в последнее время в президиуме АНБ: перераспределение полномочий в пользу отделений наук, реорганизация конструкторских организаций, коммерциализация науки.

При разработке концепции развития науки в новых условиях необходимо в максимальной степени учесть структуру трудовой мотивации научных работников. В анкетах данного социологического исследования содержался вопрос «Что может побудить ученого работать с более полной отдачей в современной ситуации?». Разрешалось отметить не более трех позиций. Ответы распределились в следующем порядке рангов (%).

| | май | ноябрь |
|---|---|---|
| 1. Соответствующее материальное вознаграждение | 82 | 84 |
| 2. Творческая деловая атмосфера в коллективе | 43 | 34 |
| 3. Максимальный уровень творческой свободы | 39 | 34 |
| 4. Перспективы научного роста | 28 | 28 |
| 5. Желание принести пользу Беларуси | 22 | 24 |
| 6. Страх потерять работу | 22 | 12 |
| 7. Ответственность перед будущим детей | 14 | 16 |
| 8. Общественное признание | 14 | 12 |
| 9. Ответственность перед коллективом | 7 | 15 |
| 10. Желание завоевать уважение коллег | 6 | 3 |

Как видим, структура трудовых мотивов достаточно устойчива. Как и следовало ожидать, на первом месте с большим отрывом от всех остальных мотивов оказалось материальное вознаграждение. Но интересно другое: невзирая ни на что, сотрудники АНБ сохранили верность таким традиционным ценностям науки, как деловая атмосфера, свобода творчества, желание принести пользу своей стране. Этот результат приводит к выводу, что программу выхода науки из кризиса надо строить на сбалансированном единстве материальных и моральных стимулов.

Г. НЕСВЕТАЙЛОВ,
доктор социологических наук, зав. отделом социологии науки Института социологии АНБ.
М. АРТЮХИН,
кандидат философских наук, старший научный сотрудник.

# ДАЙДЖЕСТ

### ЗАГРЯЗНЕНИЕ КАК УДОБРЕНИЕ?

Рост деревьев в лесах Европы и европейской части России в 1971—1990 гг. усилился почти на треть отчасти потому, что некоторые загрязняющие атмосферу вещества действуют как удобрения. Однако, по мнению специалистов, этот положительный эффект может оказаться временным.

Как сообщается, под воздействием производственных выбросов увеличилась кислотность почв в Европе и снизилось содержание в них некоторых питательных веществ, в т. ч. натрия, магния, цинка, кальция, марганца и калия, а содержание азота — важного компонента для питания растений — возросло.

Специалисты научно-исследовательского института леса (Финляндия) считают, что сейчас на большую часть лесов в Европе преобладающее влияние оказывает повышение содержания азота, действующего как удобрение. Однако, по крайней мере, в одном случае загрязнение атмосферы оказало опустошительное действие на лесные ресурсы: около небольшого населенного пункта Колы на северо-западе России, где металлургический завод выбрасывает в атмосферу тяжелые металлы, погибли практически все деревья в радиусе 5 км.

Диоксид углерода и оксиды азота вступают в различные химические реакции. При этом образующийся азот ускоряет рост растений, а другие вещества изменяют окраску древесины и листвы. К тому же одно и то же вещество может сначала ускорять рост растений, а затем замедлять его.

### ВЗЯТЬ ЭНЕРГИЮ У СОЛНЦА

Энергетический кризис вынуждает предприятия, целые регионы более активно развивать нетрадиционные методы получения энергии — так считают работники малого предприятия «Арт-ателье» из Бреста, готового предоставить любому заказчику проекты и чертежи гелиоустановок.

Артовцы уверены, что энергия Солнца, использованием которой успешно занимаются в Японии, США, Индии и Франции, имеет хорошие перспективы. Солнечные установки в большинстве дешевые, экологически чистые, их можно установить в любом регионе и использовать как в промышленности, так и в сельском хозяйстве.

### БРАЗИЛЬСКИЕ СИГАРЕТЫ РАДИОАКТИВНЫ

У бразильцев появился дополнительный стимул для того, чтобы бросить курить,— отечественные сигареты оказались радиоактивными. Как показало исследование, проведенное в Физическом институте при Университете Сан-Паулу (Бразилия), в бразильских сигаретах содержится в 12 раз больше урана, чем в сигаретах европейского производства.

Подобно многим растениям, табак содержит незначительное количество урана, но в бразильских сигаретах его содержание значительно выше предельно допустимого уровня. В американских и европейских сигаретах среднее содержание урана составляет 0,07 части на миллион, а в бразильских колеблется от 0,28 до 0,88 части на миллион. А при содержании урана 0,88 части на миллион выкуривание пачки сигарет в день равносильно по отрицательным последствиям для здоровья двум рентгеновским обследованиям в день.

Высказывается предположение, что на табачных плантациях Бразилии применяются удобрения, получаемые из фосфатов, добываемых в районах, где горные породы богаты ураном.

### НЕ ГУБИТЕ САРАНЧУ!

В новом качестве предстал перед читателями газеты «Развитие» один из самых страшных сельскохозяйственных вредителей — саранча. Оказывается, он приносит и пользу. Например, поля, подвергшиеся нашествию саранчи, уже на следующий год дают очень высокий урожай. Это объясняют двумя причинами. Первая — гибель миллионов особей. Полчища саранчи зачастую оказываются бессильными перед явлениями природы. «Засеивая» десятки квадратных километров, они становятся отличным удобрением для этих же полей. И вторая причина — начисто съедая всяческую растительность, саранча даёт возможность без помех развиваться новым росткам.

# Матэрыяльная культура

(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)

з дуба. На паўночных усходзе і захадзе Беларусі ўжо ў 20—30-я гады сялянскія хаты будаваліся пераважна на каменных і цагляных фундаментах. Па даным даследавання 1926 года, амаль у кожным чацвёртым доме была земляная падлога, якая больш часта сустракалася ў старых хатах, звычайна чатырохсценках. У пяцісценках жа толькі кожная дзесятая хата мела такую падлогу. Яна магла быць проста земляной ці глінабітнай, так



Старая хата. Вёска Выліга Суражскага раёна.

званы ток, тачок, які можна было нават мыць. Драўляная падлога перабольшвала на паўночным усходзе Беларусі, а па кольскасці хат з земляной падлогай лідзіравалі Слуцкая і Мазырская акругі. У в. Радзілавічы Тураўскага раёна Мазырскай акругі 77% хат мелі гліняны ток.

У пачатку XX ст. на Беларусі ў вясковым будаўніцтве пачалі пераважаць новыя канструкцыі столі: столь на папярэчных бэльках і камбінаваная — на папярэчных бэльках з трамам. Па традыцыі захоўваўся старадаўні спосаб насцілання дошак столі ў два рады («у разбежку», «у накладку»), але ўжо пашыраецца спосаб насцілання столі «упрытык», шчыльна адна дошка да другой. Для ўцяплення пазы між дошкамі замазвалі глінай, зверху насыпалі мох або лісце, кудзелю, кастрыцу, салому і на іх — пясок, жвір.

Яшчэ ў 1920—1930-ыя гады многія хаты былі пакрыты саломай (кулі пад «шчотку» ці «пад колас»). Драўляныя стрэхі (гонта, драніца) сустракаліся радзей, галоўным чынам у заможных гаспадарках і зусім рэдка можна было бачыць чарапічныя («дахоўка») або глінасаламяныя стрэхі. Больш пашырана была дахоўка на захадзе Беларусі, на Гродзеншчыне. Драўляныя стрэхі, асабліва з дору, былі характэрны для Палесся. Па форме пераважалі двухсхільныя стрэхі, але сустракаліся і чатырохсхільныя, трохсхільныя, страха з усечаным зверху франтонам.

У дэкаратыўна-мастацкім аздабленні жылля таксама адбываліся пэўныя змены. У арнаменце аканіц, побач з традыцыйнымі крыжыкамі, ромбамі, конікамі, пеўнікамі, дубовымі лістамі і калоссямі, з'явіліся новыя сімвалы: пяцікутная зорка, серп і молат.

Характэрна, што ў 20-ыя гады ў гарадах таксама панавала зрубнае жыллё. Паводле даных ЦСУ за 1923 г. у гарадскіх пасяленнях было толькі 4,6% жылых і 4,0% няжылых каменных будынкаў, астатнія — драўляныя. Аднак у вялікіх гарадах доля камяніц ужо была даволі значная. Так, у Мінску ў 1923 г. на іх прыпадала 12,4%, а ў Віцебску — 10,6% будынкаў. Гарадскі варыянт жылля ўяўляў сабой больш складаную з'яву, чым сельскае жыллё. Гэта сказвалася ў большай разнастайнасці выкарыстоўваемых матэрыялаў, будаўнічых канструкцый і прыёмаў пры ўзвядзенні гарадскіх дамоў. Уплыў традыцый чыста гарадской драўлянай архітэктуры выяўляўся ў аб'ёме дома, памерах вакон, фундаменце (тут больш пашыраны быў каменны або цагляны падмурак), больш шырокім выкарыстанні ў якасці дахавых матэрылаў бляхі, чарапіцы, гонты, чляненні ўнутранай прасторы дома на асобныя пакоі, пабудове мансард, больш багатым арнаментальным упрыгожванні фасадаў.

У 20—30-ыя гады пачынаецца планамерная забудова і рэканструкцыя гарадоў. Пад уплывам новых сацыяльна-эканамічных умоў змяняліся функцыі адміністрацыйных і культавых будынкаў, гандлю і сферы абслугоўвання. Карэнным чынам змяняецца жыллёвая палітыка, накіраваная на нацыяналізацыю жылых дамоў домаўладальнікаў і перадачу іх рабочым сем'ям. У буйных гарадах з'яўляюцца новыя плошчы, на якіх размясціліся будынкі ўстаноў улады і кіравання, пашыраюцца і спрамляюцца цэнтральныя вуліцы, узводзяцца новыя тыпы будынкаў: палацы культуры, кінатэатры, стадыёны, комплексы вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў, універмагі і інш. Адбываюцца зрухі і ў характары рассялення гараджан: знікае дзяленне горада на кварталы па этнічнай прыкмеце (Татарскія вуліцы і інш.). Да чэрвеня 1941 г. у гарадах і гарадскіх пасёлках БССР каля 57% усяго жыллёвага фонду складалі дамы, пабудаваныя пасля 1917 года. Яго павелічэнне суправаджалася добраўпарадкаваннем жылых дамоў (амаль у 6,5 разоў павялічваецца ў параўнанні з дарэвалюцыйным часам сетка вадаправода, у 17,3 — падача вады). Аднак выкарыстанне адзіных канструкцыйных і планіровачных стандартаў, архітэктурных прынцыпаў і будаўнічых норм вяло да ўніфікацыі жылля, пазбаўляла яго спецыфічных этнічных рыс.



Хутар у Гомельскай вобласці.

Спачатку XX ст. і амаль да 50-х гадоў захоўваліся традыцыйныя асаблівасці інтэр'ера беларускага сялянскага жылля. Унутраная планіроўка была адным з найбольш істотных і ўстойлівых прыкмет жылля, захоўваючых этнічную спецыфіку. Побач з уваходам у дом, павернутая вусцем да бакавога вакна, стаяла печ, якая ў хатах малых памераў займала амаль чацвёртую частку плошчы. У пачатку XX ст., асабліва ў 20—30-ыя гады назіраецца актыўнае ўдасканальванне печы. Ніжняя частка яе ўсё часцей рабілася не з дрэва, а з абпаленай цэглы, камення. Павялічваецца і колькасць грубак і пліт, убудаваных у прадпечча. Толькі як рэлікт, у асобных вёсках сустракаліся курныя печы, у старых, дажываўшых век людзей. У сялянскім побыце печ служыла самым разнастайным жыццёвым і гаспадарчым патрэбам: варылі ежу для сябе і жывёлы, прасушвалі вопратку, збожжа. Узімку печ з'яўлялася проста гняздом усёй сям'і. На печы грэліся і старыя, і малыя, і хворыя. Для гаспадыні яна была нібыта жывой істотай, якую яна даглядала, завіхалася каля яе, варожачы над кашай і поліўкай, праснакамі ці пірагамі. Мабыць адсюль і пайшоў выраз — «танцаваць ад печкі».

Печы ж надавалася вялікая роля ў народнай медыцыне і магіі. Да прыкладу можна прывесці рытуал «перапякання» хворага дзіцяці, якога маці на хлебнай лапаце садзіла ў печ (ці рабіла выгляд, што хоча пасадзіць). Сімволіка рытуала заснавана на атаясамленні выпечкі хлеба і з'яўлення дзіцяці на свет. Дзіця як быццам звярталі ў мацярынскае лона, каб яно нарадзілася зноў.

Печ служыла і спальным месцам для старых. Доўгімі зімовымі вечарамі яны расказвалі малым казкі, былічкі, балады, у якіх праяўляліся вопыт і мудрасць народа. Гэтыя вечары былі самымі цікавымі заняткамі, што зблізкалі людзей, умацоўвалі сям'ю, перадавалі этнічныя веды.

Пад печкай у вялікія марозы трымалі кур, качак, гусей, туды іншы раз забягалі сабака ці кот. Дарослыя казалі дзецям, што пад печкай жыве дамавік. Нярэдка ў хаце «зімавалі» нованароджаныя цяляты, ягняты, а калі-небудзь і свіння з парасятамі. З маленства дзеці далучаліся да акаляючага жыцця, ведалі звычаі і нораў хатніх жывёл і птушак, асэнсоўвалі сваю еднасць з матухнай Прыродай. А з другога боку гэта акалічнасць пагаршала санітарны стан і ўмовы жыцця селяніна. У хаце было брудна і душна, што спрыяла росту захворванняў. Насупраць вусця печы — на сцяне — віселі «градкі», паліцы для посуда і залыжнік для лыжак (гэты куточак звалі мыцельнікам). Паміж сцяной і печчу размяшчаўся качарэжнік ці вілачнік.

Па дыяганалі ад печы знаходзілася самае ганаровае месца ў хаце — чырвоны вугал (покуць), дзе захоўваліся культурныя сімвалы: іконы, біблія, крыж, свечы, важныя паперы (дакументы, пісьма). Сярод ікон найбольш пашыраны былі «Мацеры божай», «Міколы цудатворца», «Георгія-пераможца». Перад абразамі вісела лампада, якая запальвалася ў святыя дні. Веруючыя звярталіся да сваіх святых заступнікаў з малітвай, з якой па традыцыі пачынаўся кожны дзень і ўсе важнейшыя сямейныя справы. Маці вучыла дзяцей маліцца богу. Сама ж малілася стоячы на каленях кожны вечар. У 20—30-ыя гады поруч з іконамі з'явіліся партрэты правадыроў, рэвалюцыянераў, убраныя ручнікамі. У камуністаў, старшынь калгасаў і сельсаветаў абразоў ужо няма, іх замянілі партрэты дзяржаўных дзеячоў, фотаздымкі, афішы. Вось сведчанне карэспандэнта часопіса «Наш край» (1930, № 3, с. 47): «У адной з покуцкіх хат (в. Покуць Чачэрскага раёна) адразу заўважыў, што ў прывычным куце няма абразоў. На сценах — партрэты правадыроў, сельсавецкія аб'явы, прыказы. Гаспадыня запрыкмеціла: — Дзівіцеся, абразоў няма? Дык гэта ж Іван мой прысідацелем... дык усе павыкідваў, ад людзей нешта няемка...».

На покуці звычайна сходзіліся дзве нерухомыя шырокія лавы. Перад імі знаходзіўся стол, а з другога яго боку стаялі невялікія «услоны» («слоны», «зэдлі») — пераносныя лаўкі. Усе рэчы сваёй работы, даволі простыя і прымітыўныя. За сталом сям'я збіралася на сняданак, абед, вячэру, адзначала важныя падзеі ў сваім жыцці: радзіны, вяселле, памінкі і інш. На стале звычайна знаходзіліся хлеб, салонка, накрытыя чыстым абрусам.

Ад бакавой сцяны печы да procілеглай тарцовай сцяны хаты наладжвалі дашчаты насціл — «пол», «памост», пад якім звычайна рабілі палаці. Аднак ужо ў 20—30-ыя гады назіраецца замена «палоў» ложкамі. На ложках спалі гаспадар і гаспадыня з малымі дзецьмі. Часам спальнае месца аддзялялі кавалкам палатна, падвешаным на аборцы. Астатнія члены сям'і спалі на палацях, а каму месца не хапала, то і на лавах. Летам моладзь пераходзіла спаць у клець ці на сенавал. Пасцеллю служыла кулявая салома, прыкрытая дзяругай, а падчас салома зашывалася ў дзяругу. Падушкі мелі толькі маладажоны. У больш заможных сялян сустракалася да трох падушак, а замест дзяругі меліся даматканыя посцілкі і коўдры. У бедных сем'ях спецыяльных пасцельных прыналежнасцей (коўдраў, падушак, сеннікаў, посцілак) не хапала, а чаго і зусім не было, іх часта замяняла вопратка (кажухі, армякі і інш.). Часам падушкі напаўнялі не толькі птушыным пухам, пер'ем рэзаным, а і чаротавым пухам і балотнымі «пухаўкамі», якія збіралі вясной у час квіцення.

Каля «пола» ці ложка да бэлькі падвешвалася люлька («зыбка», «калыска») для дзіцяці.

У хаце, а іншы раз у сенях, стаяў сундук, куфар ці так званая «бонька» (дзежка), дзе захоўвалася святочная вопратка гаспадароў, палатно, ручнікі, абрусы і інш. Паўсядзённае адзенне, як правіла, вісела на жэрдцы або перасове ў хаце. Верхняе адзенне займала сваё месца на вешалцы ў парозе. На падлозе ў парозе стаяў цэбр для памыяў, а на ўслоне вёдры з вадой, кубак.

Зімой і вясной інтэр'ер сялянскай хаты дапаўняўся кроснамі. У звычайнай сярэдняй па размерах хаце было чатыры вокны. У пяцісценках і хатах з дзвюх палавін рабілі 5—6 акон, а іншы раз і да 10. Вокны былі малой плошчы ў мэтах зберажэння цяпла, часта рамы адзінарныя, бо не было дастаткова шкла і грошай, каб зрабіць падвойныя рамы. Але ўжо ў 20—30-ыя гады пашыраецца выраб і выкарыстанне падвойных рам. Па даных абследавання сялянскага жылля, вынікі якога змешчаны ў часопісе «Наш край» (1926, № 6—7, с. 12), вокны з падвойнымі рамамі мелі 53,9% агульнага ліку хат, у 7,9% хат не ўсе вокны былі з падвойнымі рамамі, і 39% мелі адзінарныя рамы. Амаль у чвэрці усіх хат былі так званыя «глухія» вокны, якія ніколі не адчыняліся. На зіму з саломы плялі маты і закрывалі на ноч з вуліцы вокны, «каб не клаў мароз сляды», або да паловы акон насыпалі мялле, ці рабілі невялічкую скрыначку, куды насыпалі кастрыцу. Гэтая скрыначка закрывала трэцюю частку акон, таму ў хаце было цёмна. Больш заможныя рабілі драўляныя стаўні на вокны («вакяніцы»), якія закрывалі на ноч. У старых хатах захавалася вакно-адтуліна, без рамы і шкла, якое закрывалася засовам (тоўстая дошка). Гэта акно служыла ў даўнія часы для выхаду дыма, калі печ палілі па-чорнаму.



Хаты новая і старая. Вёска Барысаўшчына Глускага раёна.

Хаты асвятляліся керасінавай лямпай ці газніцай («газа»). Прычым лямпы стараліся выкарыстоўваць ўзімку і толькі ў час урачыстасцей, таму што газа была даволі дарагая. Паралельна з газам ужываліся лучнікі (новая назва «грамафоны»), хаця ў некаторых хатах ад іх засталіся толькі сляды — дзіркі ў столі. І толькі ў самых убогіх хатках можна было ўбачыць асвятленне вогнішчам, якое разводзілася на блясе, падвешанай да пашыранага канца коміна і злучанага з ім. Для вогнішча выбіралі хваёвыя і яловыя карчы.

Кожная гаспадыня ў залежнасці ад густа, працавітасці, мясцовых традыцый старалася ўпрыгожыць сваё жыллё. Сцены іншы раз абклейвалі шпалерамі і газетамі, «ды і то толькі на куце, дзе вісяць партрэты Леніна, Варашылава, вельмі часта з іконамі» (Чэрвеньшчына). Калі клеілі газетамі, пільна глядзелі, каб якога высокага кіраўніка партрэт не разрэзаць і не прыляпіць на сцяне ўніз галавой. На вокны вешалі газеты, размалёваныя ў розныя ўзоры. На Мазыршчыне розныя ўзоры малявалі проста на сцяне. Дзе-нідзе ў хатах сустракаліся рознакаляровыя кітайскія веэры. На лаўках у вазонах раслі «мірцікі», «рабчыкі», «мальчыкі», «лэскі», «фікусы», на вокнах красаваліся «аганькі», «мушкеты». У святочныя дні хату было не пазнаць. Земляную падлогу напярэдадні старанна падмяталі і пасыпалі жоўценькім пясочкам. Драўляную падлогу, столь, лавы, сталы мылі. Бялілі печ, сцены. Абразы ўпрыгожваліся новымі ручнікамі, стол пакрываўся абрусам з вышыўкай і карункамі. Ложкі засціраліся суконнымі посцілкамі, падушкі пакрываліся ажурнымі накідкамі. Звычайна ўсё гэта рабілі

# беларускага народа

да Каляд, Вялікадня, а ў 30-ыя гады і да гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі і Першага мая.

Яшчэ і ў 20—30-ыя гады людзі верылі, што дабрабыт сям'і, хату захоўвае дамавік. Да яго звярталіся з просьбамі, стараліся задобрыць, у памінальныя дні запрашалі да стала. Аляксандра Сцяпанаўна Бараноўская, якая нарадзілася ў Старобінскім раёне, а сёння жыве ў Мінску, успамінае: «Пераязджалі мы са старой хаты ў новую. Хросная дала мне паўлітра масла і параіла: «Зойдзеш у хату і скажаш: «адтуль дамавога забрала і сюды прынесла і гасцінец яму дам».

Разам з пашырэннем пяцісценкаў, падзелам хаты на два і больш пакоі змяняецца традыцыйнае размяшчэнне рускай печы. У пяцісценку яна знаходзілася звычайна ля сярэдняй сцяны, прычым апошняя ў гэтым месцы выразалася і частка печы выходзіла ў чыстую хату. Пашырыўся звычай рабіць асобныя грубкі («грубы», «шчыты») па тыпу галандскай печы. У сувязі з чым парушаецца традыцыйнае размяшчэнне асноўных элементаў інтэр'ера. У пярэдняй хаце, побач са старымі, з'яўляюцца новыя прадметы быта (драўляны ложак, канапа, табурэты, шафа). Яна лепш упрыгожана. Вось апісанне яе планіроўкі: «Дзверы вядуць у другую хату: яна «новай» называецца, хаця будавалася разам з першай. Сцены абабіты шпалерамі, на сценах фотаздымкі, афішы або «капіталіст» часоў ваеннага камунізму. Партрэты рэвалюцыянераў... Гэта хата трымаецца ў чысціні». У асобных хатах сустракаліся ўжо і люстэркі.

Блізкім да традыцыйнага па свайму зместу быў інтэр'ер жылля гараджан — выхадцаў з вёскі. Аднак з цягам часу, па меры росту дабрабыту сям'і, драўляная мэбля (ложкі, канапы, куфры) замяняліся нікеліраванымі ложкамі з горкай падушак, коўдрамі, посцілкамі, шафамі і этажэркамі. Замест драўляных прадметаў хатняга начыння і посуду, ткацтва набываліся фаянсавы і металічны посуд, фабрычныя абрусы і інш.

Гаворачы аб зменах у матэрыяльнай культуры, нельга не ўлічваць уплыў на яе спусташальнай Айчыннай вайны, якая значна пагоршыла жыллёвыя ўмовы насельніцтва. У час вайны нямецкія акупанты разбурылі і зруйнавалі з зямлёй 209 беларускіх гарадоў і раённых цэнтраў, 9200 сёл і вёсак, правялі больш за 140 карных аперацый, у час якіх спалілі 628 вёсак разам з жыхарамі (у т.л. в. Хатынь, памяць аб якой увекавечана ў мемарыяльным комплексе «Хатынь»). Ва ўмовах ваеннага ліхалецця насельніцтва прытрымлівалася традыцыйных спосабаў і прыёмаў будаўніцтва, але памеры хаты былі меншыя. Перабольшвала аднакамернае жыллё і толькі пазней да яго прыбудоўвалі сені. Шмат хто жыў у зямлянках ці паўзямлянках, у верхняй частцы сцен, што выступалі над зямлёй, рабілі маленькія акенцы. У лесе будавалі буданы. Інтэр'ер сялянскай хаты застаўся нязменным, і толькі ў пагарэльцаў ён быў бяднейшы: самаробная грубая мэбля і хатняе начынне.



Хата ў вёсцы Наўліцы Гомельскай вобласці.

Ва ўмовах вайны адрадзіліся і традыцыйныя спосабы асвятлення — лучына са спецыяльным прыстасаваннем да яе светачам, з'явілася і новае прыстасаванне — газоўкі з гільзаў буйнакаліберната кулямёта, куды залівалася газа ці тлушч. Паколькі запалак не было, то беларусы ўспомнілі аб добра вядомым ім спосабе здабывання агню з дапамогай крэсіва, крэмня і трута. Сёння ўсё часцей гавораць аб распадзе чалавечых сувязей. Кажуць, што выжыць, пракарміцца можна толькі пасобку. Гэта няпраўда. І сведчаннем гэтаму з'яўляецца ваенны час. У цяжкую гадзіну ў народа праявіліся хрысціянскія рысы: міласэрнасць, жаданне дапамагчы слабаму, гаротнаму. Беларусы з іх добразычлівай, шырокай славянскай душой прытулак давалі ўсім: яўрэям, татарам, палякам і г.д.

Па адвечнай традыцыі сяляне не пакідалі ў бядзе пагарэльцаў, бежанцаў, партызан, бралі да сябе на кватэру, талакой будавалі новы дом ці зямлянку, дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, адзеннем. У доме калгасніка в. Татарка Е. Е. Рудзько ўсю вайну знаходзілася чатыры сям'і: Данілы Ляшчэні (дзве душы), Міхаіла Ляшчэні (тры душы), Анны Радкевіч (тры душы), Агафона Корбута (чатыры душы). Разам з сям'ёй самога гаспадара ў доме ўвесь час было не менш 15 чалавек.

У пасляваенны час на месцы знішчаных фашыстамі вёсак выраслі новыя, з попела і руін узняліся беларускія гарады. Аднавіўшы разбураную вайной гаспадарку, Беларусь уступіла ў новую паласу свайго развіцця. Значныя змены адбыліся ў жыллёвым будаўніцтве, ва ўпарадкаванні сельскіх і гарадскіх паселішчаў. Сучаснае сельскае жыллё развіваецца па двух напрамках: удасканальванне традыцыйнага тыпу індывідуальнага дома і забудова вёскі шматпавярховымі дамамі гарадскога тыпу і катэджамі. Сёння ў беларускай вёсцы яшчэ пераважае традыцыйнае жыллё: 80% жыллёвага фонду сельскіх населеных пунктаў прыходзіцца на індывідуальныя дамы калгаснікаў, рабочых саўгаса і іншых працаўнікоў вёскі. Сялянская хата, захоўваючы традыцыйныя асаблівасці, канструкцыі, упрыгожанні жылля, арыентацыю тарцом да вуліцы і інш., інтэнсіўна ўспрымае навацыі. З'яўляюцца новыя будаўнічыя матэрыялы. Разам з драўлянымі дамамі на вёсцы ўзводзяцца цагляныя і шлакабетонныя, на змену саламянаму даху прыйшлі шыфер, гонта, чарапіца. Удасканальваюцца будаўнічыя канструкцыі. Цяпер, напрыклад, бярвенні на сцены сталі апілоўваць або абчэсваць з абодвух бакоў, асноўным спосабам іх злучэння стаў чысты вугал, шырокае распаўсюджанне атрымаў падмурак, зроблены з камення ці цэглы. Дамы сталі больш прасторныя і высокія, іх плошча перавышае 40 кв. м., а вышыня ад падлогі да столі дасягае 3 м. Сярэдняя забяспечанасць жыллём у разліку на аднаго сельскага жыхара толькі за пяць апошніх гадоў (1985—1990г.) павялічылася з 19,1 да 22,6 м². Тут трэба мець на ўвазе і тую акалічнасць, што за апошнія гады значна скарацілася як колькасць сельскага насельніцтва, так і сярэдні памер сельскай сям'і.



Хата ў вёсцы Вязынка Мінскай вобласці.

Непазнавальна змяніліся і вонкавыя аблічча сядзіб. Пашырылася традыцыя разбіваць перад домам палісаднік з кветкамі, ягаднікамі, дэкаратыўнымі дрэвамі і садавінай. Драўляная разьба ўпрыгожвае ліштвы акон, вуглоў, аканіцы, вільчыкі. У арнаментах, якія выкарыстоўваюцца для аздаблення дамоў, маюць месца геаметрычныя і раслінныя ўзоры, заамарфныя і антрапаморфныя фігуры. Прычым умельцы, што ўпрыгожваюць жыллё, працягваюць ужываць традыцыйныя тэхнічныя прыёмы. У пасляваенны час шырокае распаўсюджванне атрымала дэкаратыўнае аздабленне сцен мастацкай укладкай шалёўкі і актыўнае выкарыстанне колера ў народнай архітэктуры: фарбуюцца франтон, сцены хаты, яе асобныя дэталі — аконныя ліштвы, вуглы, дзверы. Ужыванне двухкаляровай або паліхромнай афарбоўкі надае жыллю непаўторны каларыт, адлюстроўвае эстэтычныя густы народа. Характэрна, што і ў пабудове з новых матэрыялаў захоўваецца традыцыйны самабытны стыль архітэктуры. Так, тэхтоніку драўлянага зруба паўтараюць цагляныя пілястры, лекальная цагліна дазваляе аднавіць дэкор, у якім можна пазнаць матывы разных ліштваў, аканіц.

З сярэдзіны XX ст. жыллёвая палітыка грунтуецца на градабудаўнічай канцэпцыі рассялення Беларусі, заснаванай на прынцыпах самападпарадкаванасці агульнатэрытарыяльнага і рэгіянальнага цэнтрызма. Сталіца рэспублікі і абласныя цэнтры становяцца галоўнымі вузламі палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных сувязей. Паводле гэтай канцэпцыі, ў адзіную сістэму завязваецца развіццё сёл, фарміруюцца зоны прыгарадных гаспадарак, змяняецца прыродны ландшафт (асушваюцца балоты, спрамляюцца рэкі і інш).

Другім крокам да празмернай цэнтралізацыі з'явілася дактрына «неперспектыўных вёсак», якая пачала актыўна праводзіцца ў жыццё з канца 70-х гадоў. Яна ўнесла сваю негатыўную лепту ў руйнаванне народнай культуры. Колькі іх нашых малых Радзім з самабытным дойлідствам, абрадамі і звычаямі, пазбаўленых элементарных культурна-бытавых умоў (ліквідацыя фельчарскіх пунктаў, пачатковых школ, магазінаў), не па сваёй волі пакінута іх жыхарамі, што было яшчэ адным замахам на самасвядомасць народа. Хаця, як гавораць беларусы, няма худа без дабра. У ходзе рэалізацыі гэтай «канцэпцыі» выкрышталізаваліся і станоўчыя вынікі эксперыментальнай забудовы, менавіта той, якая арганічна спалучалася з навакольным асяроддзем, улічвала традыцыйнае рассяленне, лакальныя рысы народнага дойлідства, лад жыцця сялян. У гэты ж час распрацоўваюцца генеральныя планы забудовы гарадоў да 2000 года.



Новая вуліца. Саўгас «Маладзечанскі». 1963 г.

У структуры гарадоў вычляняюцца сферы грамадска-культурнага жыцця (тэатры, музеі, выстаўкі і спартыўныя комплексы, зоны масавага адпачынку), цэнтры гандлю, навучальныя ўстановы. Ствараюцца буйныя шматпавярховыя мікрараёны («Серабранка», «Зялёны Луг», «Вяснянка» і інш. у г. Мінску), што маюць індывідуальнае аблічча, ў будаўніцтве якіх выкарыстаны сучасныя індустрыяльныя метады, новыя матэрыялы, света-ценявыя і каляровыя рашэнні. Сталіцу Беларусі семідзесятых гадоў XX ст. увасабляюць велічныя мазаічныя пано з рознакаляровых кавалачкаў смальты, змешчаныя на семнаццаціпавярховых будынках мікрараёна «Усход-1» (аўтар Аляксандр Кішчанка). Асаблівы клопат — грамадскім будынкам, якія ўзводзяцца па індывідуальных праектах, часта як унікальныя. У афармленні іх вонкавага выгляду, інтэр'ера архітэктары і мастакі прыўносяць нацыянальны стыль (выкарыстоўваюць беларускую сімволіку, кераміку, смальту, габелены, карціны і шмат чаго іншага). Да прыкладу, пры ўзвядзенні станцый беларускага метро ўжывалася кераміка («Станцыя Я. Коласа»), рознакаляровае шкло («Станцыя Інстытут культуры») і інш., што надае ім нацыянальныя рысы.

У сувязі з агульным развіццём жылля, павышэннем культурна-бытавых патрабаванняў насельніцтва ў адносінах хатняга побыту, ідзе інтэнсіўная трасфармацыя інтэр'ера. Традыцыйны падзел прасторы ў жылым памяшканні замяняюць пакоі, якія маюць пэўнае функцыянальнае выкарыстанне. Звычайна вылучаюць залу («пярэднюю»), спальню і кухню, іншы раз дзіцячы пакой і прыхожую. Зала служыць для адпачынку сям'і, прыёму гасцей. Тут стаіць сучасная фабрычная мэбля: сценка ці буфет, або сервант з сервізамі, хрусталём, статуэткамі, мяккі вугал, які ўключае дыван-ложак, два крэслы, столік для часопісаў, або асобныя тахта ці дыван-ложак, а іншы раз па традыцыі 30-х гадоў—ложак з горкай падушак з вышытымі накідкамі. Звычайна на сцяне над ложкам вісяць дываны фабрычнага ці хатняга вырабу. У вясковай хаце па традыцыі вылучаюць чырвоны кут, дзе ў старых людзей вісяць іконы, пакрытыя прыгожымі ручнікамі, а ў больш маладых размешчаны фотаздымкі, карціны. Як правіла, у вугле стаіць тэлевізар. У залу купляюць люстру фабрычнага вырабу, трумо ці люстэрка. Неад'емным атрыбутам як гарадской, так і сельскай сям'і стала хатняя бібліятэка, якая гаворыць аб узрослым культурным узроўні насельніцтва. Характэрна, што ўнутраная планіроўка сельскага жылля, у большай меры чым гарадскога, утрымлівае традыцыі: гэта і размяшчэнне прадметаў інтэр'ера, і аздабленне кватэры. У шмат якіх вёсках і сёння ў хаце стаяць кросны, жанчыны ткуць ручнікі, рознакаляровыя посцілкі, «хадакі» і інш., якімі ўпрыгожваюць жыллё.

Спальня і кухня абстаўлены больш сціпла. У спальні стаяць драўляныя ці нікеліраваныя ложкі, шафа, іншы раз пісьмовы стол, этажэрка. Хаця тып традыцыйнай планіроўкі сёння парушаны, руская печ працягвае бытаваць у сучасным сельскім доме. Яна перамясцілася на кухню і служыць для яе ацяплення, гатавання ежы. Аднак у апошнія дзесяцігоддзі ўсё шырэй для гатавання ежы выкарыстоўваюцца электра- і газавыя пліты. Іншы раз з кухні вылучаецца яшчэ адзін пакой — прыхожая, дзе звычайна стаіць шафа для посуду, часам ложак для старых членаў сям'і. Тыя ж сем'і, што жывуць у добраўпарадкаваных шматкватэрных дамах ці дамах катэджнага тыпу, наогул ужо не маюць справу з печчу, яны забяспечаны цэнтральным ацяпленнем, вадой, газам, каналізацыяй. Праўда такіх сямей на вёсцы яшчэ няшмат. Толькі нямногім больш 10% сельскага насельніцтва жыве ў добраўпарадкаваных памяшканнях (у горадзе — 73,2%).

Элементы нацыянальнага можна сустрэць у інтэр'еры сучасных гарадскіх кватэр: насценнае пано, інкрустацыя рэчаў саломкай, кераміка. Інтэр'ер кватэр нярэдка ўпрыгожваюць традыцыйныя вырабы ткацтва: сурвэткі, абрусы, ручнікі, накідкі на канапу, крэслы, посцілкі. Такія прадметы ўносяць этнічны каларыт у жыллё гараджан.

Такім чынам, сучаснае жыллё, нягледзячы на ўніфікацыю і стандартызацыю, захоўвае старадаўнія традыцыі, служыць этнічным вызначальнікам і займае важнае месца ў сістэме культуры народа.

**Г. КАСПЯРОВІЧ,**
старшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ АНБ, кандыдат гістарычных навук.

## КАМЕНЬ МЕСЯЦА

# АКВАМАРИН

Камень — талисман первого весеннего месяца — аквамарин, переводимый с латинского как цвет морской воды, известен человечеству издавна. Плиний старший в XXXVII томе «Естественной истории» писал: «больше всего ценятся бериллы, наполняющие цветом своим чистую зелень морских вод». В древности аквамарин считался талисманом, обеспечивающим владельцу безопасность в морских путешествиях и даже победу в морских сражениях. Официально же голубовато-прозрачная разновидность берилла стала называться аквамарином лишь с 1604 года, когда астролог, медик и минералог Боэций де Боот узаконил в своих трактатах это название.

С античных времен аквамарины — излюбленный материал для камей и инталий. На вырезанной на аквамарине гемме 1 в. до н. э. квадрига гиппокампов — полуконей-полудраконов — взмыла на гребень волны, вынося колесницу с Нептуном. И волны, и мифические звери, и сам повелитель морей — все светится голубизной. В образе морского божества представлен римский император Октавиан Август, «победитель на суше и на море». В одной из корон королевы Великобритании вставлен голубой ограненный аквамарин массой 920 карат, символизирующий, что Британия — владычица морей. Неоспоримое значение выхода к морям запечатлел цельный кристалл прозрачного аквамарина, из которого вырезан скипетр, длиной около 30 см, принадлежащий королю Станиславу, хранящийся в Оружейной палате Кремля.

Давняя традиция наделяет аквамарин способностью хранить любовь в разлуке, охлаждать страсти, успокаивать бури. Кроме того, он символ верной дружбы, рассудительности и красноречия.

Привлекает в аквамарине его цвет — зеленоватый, зеленовато-голубой, небесно-голубой, зеленовато-синий. Окраска обусловлена изоморфным вхождением в структуру минерала ионов двух — трехвалентного железа, замещающих алюминий в октаэдрических позициях кристаллической решетки аквамарина. Под действием солнечного света интенсивность окраски бледнеет, минерал как бы «выцветает», но при облучении гамма-лучами и нагревании кристаллов выше 400° С цвет не только восстанавливается, но и закрепляется. Плеохроизм аквамарина от бледно-голубоватого, почти бесцветного, до небесно-голубого, при этом в различных направлениях отмечается разный цвет, что необходимо учитывать при огранке кристаллов. Последние, как правило, всегда прозрачны и имеют форму длинностолбчатых и шестигранных призм, в которых отмечаются тончайшие полые канальцы, вызывающие серебристо-белые световые эффекты. Если таких канальцев в кристалле много, то в отшлифованном образце можно наблюдать эффект «кошачьего глаза» или блики в виде шестилучевой звезды.

Академик Ферсман установил, что синие тона аквамаринов свойственны кристаллам Урала и Забайкалья, зелено-синие — кристаллам Ильменских гор. Прекрасного качества голубовато-зеленые и голубые аквамарины распространены в Бразилии. Встречаются они, кроме того, в Нигерии, Зимбабве, Мадагаскаре, Австралии, Индии, Шри-Ланке, США. Известны находки аквамаринов и в пегматитах Волыни на Украине.

Помимо привлекательной окраски аквамарины поражают и величиной кристаллов очень высокой твердости, — до 7—8 по шкале Мооса. Прозрачные призмы длиной 10—15 см — не столь уж большая редкость. В Бразилии, в штате Минас — Жерайс найден один из крупнейших аквамаринов «Марам — байя» массой 110,5 кг, длиной 48,5 см и достигающий в поперечнике 42 см. Там же в Бразилии добыты такие крупные кристаллы как «Качасина» — 62 кг, «Марта — Роха» — 34 кг, «Эстрела Дальва» — 22 кг и другие. Крупный аквамарин массой 82 кг был обнаружен в 1796 году в восточном Забайкалье, в 1843 году в Ильменских горах нашли два кристалла синевато-зеленого цвета, размером 19 и 20 см. На Украине близ города Володарска-Волынского был найден полупрозрачный кристалл аквамарина, размером с небольшое полено. У основания он имел яблочно-зеленый цвет, а у вершины — ярко-голубой.

Один из самых драгоценнейших в мире кристаллов аквамарина хранится в минералогическом музее Горного института в Санкт-Петербурге. Подарен он был музею императором России Николаем 1 и оценивался баснословной суммой — в 42.830 царских рублей. «Кристалл этот густоспаржевого цвета в виде шестигранной призмы с неровностями и углублениями, длиной в 5,5 вершков, в окружности 6,8 вершков, весом в 6 фунтов одиннадцать золотников. Найден он при добыче цветных камней, 19 ноября 1828 года, в трех верстах от деревни Алабашки, на глубине четырех сажень, в Старцевой яме» (из книги М. А. Пыляева «Драгоценные камни» 1888 г.).

В 1867 году на Всемирной выставке в Париже был выставлен французским ювелиром Фроман-Мерис бюст императора Наполеона III, высеченный из цельного кристалла аквамарина.

Для образования крупных кристаллов необходимы высокие температуры и давления. Природные полости, где это возможно, могут возникать лишь в специфических условиях, именуемые миаролами. Последние связаны с пегматитами или грейзенами. На стенках полостей — «занорышей», как исстари называли их горщики, рядом с полевым шпатом и слюдой, полупрозрачным черным морионом и турмалином, вырастают золотистые гелиодоры, розоватые и кремовые топазы.

Встречаются подобные пегматиты по краям гранитных массивов или же в окружающих их гнейсах и сланцах. Строение их, как правило, зональное, где наблюдается одна и та же картина: мелкозернистые породы внешней зоны сменяются «графикой», где темный кварц и светлый полевой шпат срастаются в своеобразный узор, напоминающий древние еврейские письмена (письменный гранит по Ферсману). Далее следуют сплошные зоны полевого шпата и, наконец, в центре располагается миарола — приоткрытая полость с кристаллами горного хрусталя, полупрозрачного кварца и камня марта — аквамарина. Нечто подобное происходит и при формировании грейзенов — пород кислого состава, подвергшихся интенсивному выщелачиванию, выносу вещества и образованию пустот, в которых, как и в миаролах пегматитов, кристаллизуются топаз, мусковит, флюорит, турмалин, аквамарин и другие самоцветы.

Синтетические аквамарины не изготавливают. Хотя технически это возможно, но экономически нецелесообразно. Имеющиеся в продаже «искусственные аквамарины» на самом деле являются синтетической шпинелью или корундом аквамаринового цвета.

**А. БОГДАСАРОВ,**
**профессор, действительный член Минералогического общества Беларуси.**

# Колонка любопытных фактов

## Из книги рекордов Гиннесса

### КРОКОДИЛЫ

**САМЫЕ КРУПНЫЕ**

Самой крупной рептилией в мире считается речной, или морской крокодил, обитающий в Индонезии, Северной Австралии, во Вьетнаме, на Филиппинах. Взрослые самцы имеют в среднем длину 4,2—4,8 м, весят 408—520 кг.

Размер самого длинного крокодила составил 6,20 м. Он утонул, запутавшись в рыбацкой сети на реке Флай, Папуа-Новая Гвинея, в 1979 г.

По непроверенным данным, Крис Павловски на берегу реки Норман, Австралия, застрелила речного крокодила, который имел длину 8,63 м в 1957 г.

**САМЫЕ МАЛЕНЬКИЕ**

Самым маленьким из ныне живущих крокодилов считается «карликовый» крокодил, обитающий в реке Конго, Западная Африка. Его длина редко превышает 1,2 м.

**СТАРЕЙШИЕ**

Максимальный возраст для крокодила составил 66 лет. В этом возрасте в зоопарке Аделаиды, Южная Австралия, в 1978 г. скончалась самка американского аллигатора, которого поместили туда в 1914 г. в возрасте двух лет. Еще одна самка этого вида крокодилов умерла в возрасте 65 лет в аквариуме Гётеборга, Швеция, после того, как электрический подогрев бассейна был по ошибке отключен.

**РЕДЧАЙШИЕ**

Редчайшим видом крокодилов в мире считается охраняемый государством «китайский» аллигатор, обитающий в низовьях реки Янцзы. Численность этого вида насчитывает 700—1000 особей.

### ЯЩЕРИЦЫ

**САМЫЕ КРУПНЫЕ**

Самыми крупными из всех видов ящериц считаются комодийские вараны, драконоподобные рептилии, обнаруженные на индонезийских островах. В среднем взрослые самцы достигают длины 225 см и весят около 59 кг.

Самой длинной в мире ящерицей считается тонкий сальвадорский варан, обитающий в Новой Гвинее. Имеются достоверные данные о том, что его длина составляет 4,75 м.

**САМЫЕ МАЛЕНЬКИЕ**

Самые маленькие ящерицы в мире — крошечные Гекко, обитающие на архипелаге Британские Виргинские острова. Длина — 18 мм от кончика носа до хвоста и хвост такой же длины.

**СТАРЕЙШИЕ**

Установлено, что старейшим из ящериц был самец, проживший в зоологическом саду Копенгагена, Дания, с 1882 г. по 1946 г. и скончавшийся в возрасте 64 лет.

**САМЫЕ БЫСТРЫЕ**

Максимальная скорость для рептилий на суше — 29 км/час была замерена в 1941 году. Ее развивает одна из ящериц, обитающая в штате Южная Каролина, США.

## Календарь именин

**ФЕВРАЛЬ**

26

Зоя — жизнь (греч.).
Светлана — светлая (греч.)

27

Кирилл — барчонок (греч.)

28

Онисим — полезный (греч.)

**МАРТ**

1

Даниил — судья Божий (евр.)
Павел — малыш (лат.)
Самуил — услышанный Богом (евр.)

2

Марианна (Марьяна) — значение не установлено
Федор — дар Божий (греч.)

3

Кузьма — украшение (греч.)
Лев — лев (лат.)

4

Архип — хозяин лошадей (греч.)
Евгений — благородный (греч.)
Максим — величайший (лат.)
Филимон — любимый (греч.)



**Дрэвы.** Фота Міхаіла ХАМЦА

## ОБЪЯВЛЕНИЯ

Институт общей и неорганической химии объявляет конкурс на замещение вакантных должностей старшего научного сотрудника (1) и научного сотрудника (2) по специальности «коллоидная химия». Срок подачи заявлений 2 недели после публикации объявления. Адрес: г. Минск, ул. Сурганова, 9.

* * *

Центральный ботанический сад АН РБ объявляет конкурс на замещение вакантных должностей:

— заведующего лабораторией интродукции и селекции орнаментальных растений с ученой степенью доктора или кандидата биологических наук по специальности «растениеводство»;

— заведующего лабораторией фитопатогенных организмов с ученой степенью доктора или кандидата биологических наук по специальности «фитопатология».

Срок конкурса — месяц со дня опубликования объявления.

Справки по телефону 39-46-24.

Рэдактар В. М. ГАРАЧКА



«Навіны Беларускай акадэміі» — штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі.

Выходзіць раз на тыдзень.

При перадруку просьба спасылацца на «НБА».

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220072, г. Мінск, вуліца Ф. Скарыны, 1, пакої 311, 313.

ТЭЛЕФОНЫ: рэдактара — 39-46-12, аддзелы — 39-54-51.

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа.

Падпісана да друку 24.02.93 г.

Тыраж 1600 экз. Індэкс 64123.

*Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.*

Зак. 80